**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 8 (724) 20 лютага 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**У суботу, 15 лютага, у Росіцы, што на Верхнядзвіншчыне, адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя ўшанаванню памяці росіцкіх пакутнікаў.** *Працяг тэмы на стар. 4.*
*Фота Зм. Лупача.*

### Лепельскі раён

# Справілі наваселлі

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам жыхары глыбінкі, у адрозненне ад буйных гарадоў, больш востра адчуваюць розныя эканамічныя цяжкасці, а іх заробкі ніжэйшыя.**

Вось і ў Лепельскім раёне летась даходную частку бюджэту ўдалося выканаць на 99,5 %, засталіся па пазыках пратэрмінаваныя запазычанасці на 4,2 млрд. рублёў. Таксама тут ліквідавалі Пышненскі сельсавет, які далучылі да суседняга Стайскага. Аднак, нягледзячы на ўзнікаючыя праблемы, іх становішча на месцах вырашаць. Да радасці насельніцтва райцэнтра актыўна тут вядзецца яго газіфікацыя, палепшылі і водазабеспячэнне шэрагу вуліц. Таксама значнай падзеяй стала заканчэнне будаўніцтва 100-кватэрнага жылога дома, у горадзе заклалі яшчэ адну такую шматпавярхоўку. Неўзабаве на плошчах былога прадпрыемства "Прамшвеймэбля" адкрыецца новая швейная вытворчасць. Таксама жыхары райцэнтра па праву ганарацца адкрытай нядаўна пасля рэканструкцыі новай сучаснай АЗС "Белнафтахіма" на ажыўленай трасе М3. Дагэтуль на тэрыторыі вобласці яшчэ не было такога навейшага аўтазаправачнага комплексу з міні-тэрміналам. Раней паблізу горада была запраўка яшчэ савецкай пабудовы, і за больш чым 40 гадоў эксплуатацыі яна састарэла фізічна і маральна. Капітальную рэканструкцыю пачалі яшчэ летась, не спыняючы працу АЗС, але заправіцца стала няпроста з-за чэргаў. Аднак гэтыя цяжкасці засталіся ў мінулым, а новая запраўка мае яшчэ і магазін самаабслугоўвання з міні-кафэ. Акрамя гэтага на абноўленай АЗС можна заправіцца і газам, тут стала працаваць першая ў рэгіёне фотаэлектрычная станцыя магутнасцю 10 кілават. Аб'ект здадзены ў эксплуатацыю з захаваннем усіх патрабаванняў па ахове прыроды, а калектыў вырас з 10 да 17 работнікаў.

### Браслаўскі раён

# Вяртайцеся да веры

■ Чэслаў Якубовіч

**Пасля свайго афіцыйнага зацвярджэння на высокай духоўнай пасадзе ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі новы 41-гадовы біскуп Алег Буткевіч свой першы душпастырскі візіт,як і чакалася, зрабіў на радзіму.**

З радасцю і хваляваннем сустракалі ў Браславе шматлікія прыхаджане мясцовага касцёла Нараджэння Маці Божай свайго земляка. У маладосці будучы святар калісьці прыйшоў упершыню сюды ў храм, вельмі хваляваўся і быў узрушаны пачутым і ўбачаным там. Аднак цяпер у родных мясцінах, дзе жывуць яго бацькі-пенсіянеры, малады прыгожы біскуп перад пачаткам Богаслужэння спачатку сам шчыра памаліўся ля магіл мясцовых святароў, якія служылі Госпаду і людзям у азёрным краі. Потым працэсія ўвайшла ў касцёл-санктуарый, а святочную Літургію ўзначаліў кіраўнік дыяцэзіі, якому дапамагалі два святары. Як заўсёды, вельмі яркім і запамінальным стала яго казанне да людзей на чысцюткай роднай мове. Біскуп разважаў пра духоўныя і сямейныя каштоўнасці, пра гармонію і лад паміж людзьмі. У той жа дзень духоўны лідар сустрэўся яшчэ з кіраўніцтвам Браслаўскага раёна, пабываў у Доме культуры на спектаклі "Куды ноч, туды і сон"касцельнага аматарскага тэатра. Дарэчы, у бліжэйшы час новы ксёндз-біскуп з рабочымі паездкамі пабывае і ў іншых парафіях Віцебшчыны, дэталёва азнаёміцца са станам духоўных спраў па адраджэнні хрысціянскай веры. Пасля азёрнага краю праз некаторы час ардынарый дыяцэзіі разам з жыхарамі Росіцы ў Верхнядзвінскім раёне ўшанаваў памяць мясцовых святароў-пакутнікаў, якія ў гады вайны не пакінулі без падтрымкі людзей падчас карнай экспедыцыі фашыстаў.

### Віцебскі раён

# Нежартоўныя страсці маладосці

■ Станіслаў Раманчук

**Чым толькі ў нас не прыходзіцца займацца супрацоўнікам праваахоўных органаў акрамя свайго галоўнага прызначэння – прафілактыкі і раскрыцця крымінальных злачынстваў.**

Вось і супрацоўнікі Чыгуначнага райаддзела ў Віцебску перажылі днямі трывожную ноч, калі ў дзяжурную часць паступіла паведамленне аб тым, што ў моцны мароз не вярнулася ў інтэрнат аднаго з ліцэяў абласнога цэнтра навучэнка. Яна прыехала вучыцца сюды з расійскай глыбінкі па суседстве і горад яшчэ ведала дрэнна, звычайна вечарам вярталася ў свой пакой. Праўда, перад гэтым у размовах з аднакурсніцамі гэта дзяўчына выказвалася, што моцна расчаравалася ў жыцці, бо яе пачуцці не падзяліў каханы хлопец. У такой сітуацыі марудзіць было нельга і міліцыянеры сталі прачэсваць пустуючыя закінутыя дамы, падвалы і гарышчы жылых будынкаў і апытваць гараджан, хто б з іх мог бачыць дзяўчыну ў гэтым раёне. Адзін з афіцэраў рэгулярна набіраў нумар яе мабільнага тэлефона, які аднак не адказваў на званкі. Нарэшце такая спроба ўдалася і саслабеўшая сама папрасіла аб дапамозе, бо яна стала замярзаць. Далей устанавіць яе месцанаходжанне было справай тэхнікі. Знайшлі міліцыянеры маладзіцу амаль без прытомнасці за горадам на заснежаным полі ў паўкіламетры ад трасы на Полацк. Каля дзвюх гадзін ночы яна зайшла пяшком нават у прыгарадны пасёлак Кіраўскі і ледзь не адправілася на той свет. Урачы даставілі пацярпелую ў бальніцу і толькі дзівіліся, што яна была на валаску ад смерці, бо яшчэ праз нейкіх паўгадзіны навучэнка магла б памерці, але цяпер у яе жыцці ўжо наступіла іншая паласа.

# Аб самым надзённым

## АМАЛЬ 80 % РЭГІЁНАЎ БЕЛАРУСІ АДЧУВАЮЦЬ ЭКАНАМІЧНЫЯ ЦЯЖКАСЦІ З-ЗА РОЗНЫХ ПРАБЛЕМ У МЯСЦОВЫХ ВЫТВОРЦАЎ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Прычыны цяперашніх катаклізмаў у тым, з чым можна пагадзіцца з віцэ-прэм'ерам, і ў сістэме нашага кіравання, сістэме кантролю якасці, сістэме адказнасці кадраў на кожным рабочым месцы. У нашых канкурэнтаў капіталістаў на Захадзе яна лепшая, там прыватная ўласнасць і рынкавыя адносіны, а эканамічная мадэль атрымоўваецца лепшая, бо яны нас апярэджваюць.**

Апошнім часам пра існуючыя ў нашай краіне сур'ёзныя эканамічныя цяжкасці, калі ўвогуле не крызіс, не гаворыць толькі самы лянівы. Што характэрна, раптам пацягнула на шчырасць і высокапастаўленых упраўленцаў, горкую праўду пра стан спраў сталі казаць першыя асобы дзяржавы. Аднак куды ім дзецца, калі сітуацыя і сёлета працягвае толькі пагаршацца, бо з пачатку года пражылі толькі 6 тыдняў, а па дадзеных Белстата, узровень інфляцыі дасягнуў ужо 1,6 %. І гэта толькі, як падаецца, толькі першыя кветачкі.

Да таго ж толькі за адзін месяц у студзені золатавалютныя рэзервы Беларусі абрушыліся яшчэ больш чым на 400 млн. долараў. Прэзідэнт перад сваёй паездкай на Алімпіяду ў Сочы правёў чарговую нараду - "даклад" па абмеркаванні ходу разгрузкі складоў айчынных прадпрыемстваў і быў вельмі ўстрывожаны цяперашняй абстаноўкай. Кіраўнік дзяржавы вельмі абурався, што на рахункі беларускіх прадпрыемстваў не паступаюць грошы за адгружаную прадукцыю. Летась колькасць стратных айчынных прадпрыемстваў толькі па Міністэрству прамысловасці вырасла ў 1,8 разы.

Куды ні кінь, убачыш горкі малюнак, бо стаў відавочны ўжо зацяжны спад у прамысловасці. У выніку чысты прыбытак беларускіх вытворцаў зменшыўся амаль у 2 разы, а вось страты выраслі амаль у 3 разы. І зусім невыпадкова днямі пасол Беларусі ў Францыі П. Латушка прама сказаў, што няма даверу да беларускай прадукцыі ў Еўропе, бо яна ламаецца прама на прэзентацыях. Прэм'ер-міністр Беларусі таксама публічна не хавае праўду пра негатыўныя тэндэнцыі ў развіцці краіны і сказаў, што і для нас беспрацоўе – не такое ўжо вялікае зло, каб прымусіць варушыцца асобных работнікаў.

Другая службовая асоба краіны – чалавек ужо пенсійнага ўзросту і яму такія разносы, пагрозы адстаўкі з боку А. Лукашэнкі – непрыемныя, але не смяртэльныя. Ну што з таго, што за правал прагнозных паказчыкаў адпраўляць на заслужаны адпачынак, як былога главу Мінпшчыны Б. Батуру. Хоць парадуюцца людзі спакойнаму жыццю ў сталым узросце, а больш маладзейшыя хай руляць сабе далей і выбіраюцца з цяперашніх цяжкасцей. Можа таму, што мне асабіста найбольш спадабалася, як на крытыку і нават з лёгкай усмешкай рэагаваў "адказны за мадэрнізацыю" пажылы віцэ-прэм'ер і Герой Беларусі, хто не ведае, Пётр Пракаповіч.

Ён заклікаў усіх "быць рэалістамі". Сапраўды, намеснік кіраўніка ўрада ведае, што ніводнае машынабудаўнічае прадпрыемства, найперш вядучыя МАЗ і МТЗ і далей іншыя іх партнёры-смежнікі, сёння не ў стане на роўных канкурараваць з сусветнымі лідарамі. Што асабліва сумна, беларусы сталі актыўна губляць свае пазіцыі і на асноўным рынку збыту ў Расіі, дзе да прыкладу, доля сталічнага аўтамабільнага завода на расійскіх прасторах знізілася да 8 % прадаж. Пасутнасці мы падышлі да таго, што патрэбна будзе хутка зусім спыніць масавую вытворчасць на такіх вось гігантах, бо яна неканкурэнтаздольная, а грошай няма ні на рахунках прадпрыемстваў, ні ў дзяржаўнай казне.

Прычыны цяперашніх катаклізмаў у тым, з чым можна пагадзіцца з віцэ-прэм'ерам, і ў сістэме нашага кіравання, сістэме кантролю якасці, сістэме адказнасці кадраў на кожным рабочым месцы. У нашых канкурэнтаў капіталістаў на Захадзе яна лепшая, там прыватная ўласнасць і рынкавыя адносіны, а эканамічная мадэль атрымоўваецца лепшая, бо яны нас апярэджваюць. Па выніках апошняй нарады ў беларускай сталіцы кіраўніку ўрада далі дадатковыя паўнамоцтвы, каб да 1 красавіка нарэшце разгрузіць склады. Глава Саўміна цяпер мае права змяняць дырэктараў праблемных заводаў, ні з кім не раючыся. Адначасова М. Мясніковіч узначаліў дзяржкамісію па АПК і да 10 сакавіка павінен распрацаваць меры па ўхіленні праблем айчыннай сельскай гаспадаркі, якіх таксама багата.

А вось кіраўнік Дзяржкантролю зоймецца выпраўленнем праблем жыллёва-камунальнай гаспадаркі, каб і там не было катаклізмаў, падобных на праблемы ў эканоміцы. Тым часам яшчэ раней з 1 сакавіка ўзнікнуць новыя праблемы ў аўтадылераў пасля ўвядзення ўтылізацыйнага збору ўслед за Расіяй пры рэалізацыі аўтамабіляў. Але ж мы самі палезлі ў гэты Мытны саюз трох, так што прыйдзецца гуляць па правілах больш моцнага саюзніка. На гэтым вось фоне, праўда, ёсць і адзін прыемны момант: насельніцтва быццам узяло паўзу і стала меней палявць на замежную валюту. У абменніках у студзені беларусы нават болей прадалі банкам долараў і еўра, чым купілі. Аднак гэта цалкам зразумела, бо цэны растуць у адрозненне ад зарплат, а суайчыннікі цяпер за працу на радзіме не вельмі трымаюцца і працуюць так, як ім плацяць.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 20.02.14 | | | | Пятніца 21.02.14 | | | | Субота 22.02.14 | | | | Нядзеля 23.02.14 | | | | Пн.24.02.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +1 | +4 | +3 | +2 | +1 | +4 | +3 | +3 | +3 | +5 | +4 | +2 | +1 | +3 | +1 | 0 | 0 | +5 |
| Ціск | 741 | 740 | 740 | 741 | 743 | 743 | 745 | 746 | 745 | 744 | 744 | 745 | 746 | 747 | 749 | 752 | 754 | 754 | 755 |
| Вільготнасць | 98 | 95 | 94 | 97 | 94 | 92 | 93 | 96 | 93 | 94 | 97 | 97 | 99 | 96 | 85 | 93 | 96 | 94 | 79 |
| Вецер м/сек | 1 С-З | 3 З | 4 З | 4 З | 4 З | 3 З | 1 Ю | 2 Ю-В | 3 Ю | 5 Ю | 4 Ю | 1 Ю-З | 2 С | 3 С-З | 2 С-З | 1 Ю-З | 1 С-З | 2 Ю | 4 Ю |

## Дзень за днём

**У краіне стала ўжо 777 стратных прадпрыемстваў і арганізацый, год назад такіх было толькі 458. З-за эканамічных цяжкасцей летась ужо каля 100 тысяч беларусаў працавалі год з няпоўнай занятасцю. Выдачу крэдытаў беларусам без даведак аб іх даходах банкам могуць забараніць. Беларусь правяла нарэшце ў Бруселі перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму з ЕС, наступны іх раўнд пройдзе ў сакавіку ў Мінску. Усяго 2 % кніг летась у краіне надрукавалі на беларускай мове. Самым сціплым за ўсю гісторыю стала прадстаўніцтва Беларусі на ХХІІ зімовай Алімпіядзе ў Сочы: усяго 27 атлетаў у 5 відах спорту.**

## Важнейшыя навіны свету

**Сірыя**. Акрамя вайны, па дадзеных ААН, штодзень людзі паміраюць дзясяткамі ад голаду і хвароб у населеных пунктах без вады, акружаных войскамі рэжыму Б. Асада.

**Польшча**. Міністр абароны ЗША Чак Хейгел аб'явіў, што на тэрыторыі краіны сістэма еўрапейскай супрацьракетнай абароны з'явіцца ў вызначаны тэрмін у 2018 годзе.

**ЗША.** Глава разведкі Д. Клеппер у справаздачы Кангрэсу зазначыў, што з дапамогай РФ Беларусь падтрымлівае адносна стабільны ўзровень жыцця, але яе эканоміка ў крызісе.

**Украіна.** Пры любым развіцці падзей, як заявіў беларускі палітолаг Ю. Дракахруст, сваю краіну В. Януковіч не павядзе ў Еўразійскі саюз, а Еўрамайдан плюс для А. Лукашэнкі.

**Бельгія.** Глава дыпмісіі ЕС Кетрын Эштан заявіла, што Еўрасаюз і ЗША акажуць Украіне фінансавую дапамогу на пераходны для яе перыяд палітычных і эканамічных рэформ.

**Польшча.** Пасля заканчэння Алімпіяды ў Сочы, як папярэдзіў прэм'ер-міністр Дональд Туск, адразу ж Расія стане актыўна ўмешвацца ва ўнутраны канфлікт ва Украіне.

**Германія.** На 50-й міжнароднай канферэнцыі па бяспецы ў Мюнхене глава МЗС Расіі Сяргей Лаўроў жорстка паспрачаўся з Захадам наконт будучага выбару Украіны.

**Расія.** З-за пазіцыі ЕС па Украіне краіна пачала гандлёвую вайну з Брусселем, забараніўшы пастаўкі свініны з Еўрасаюза, пасля выяўлення ачагу афрыканскай чумы свіней у Літве.

**Літва.** Прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ пацвердзіла, што пойдзе ў другі раз на прэзідэнцкія выбары 11 мая, у яе найбольей шанцаў зноў перамагчы з рэйтынгам 39,7 % падтрымкі.

**Італія.** Карабінеры затрымалі трох наркаманаў, якія ў горадзе Л'Акуіла ўкралі з касцёла для продажу шклянку з арравай з бутэлечкай крыві былога Папы Рымскага Яна Паўла ІІ

**Кітай.** У першага кітайскага лунахода "Юйту" пасля месяца працы на Месяцы выявіліся сур'ёзныя збоі абсталявання апарату з-за складанага рэльефу мясцовасці.

**Славенія.** Чвэрць жылфонда краіны засталася без электрычнасці пасля вельмі моцных завірух і "ледзяных ліўняў", на аднаўленне інфраструктуры спатрэбіцца некалькі месяцаў.

**ЗША.** Ва ўласнай кватэры ў Нью-Ёрку памёр пасля перадазіроўкі наркотыкамі 46-гадовы знакаміты кінаакцёр, зорка Галівуда і ўладальнік кінапрэміі "Оскар" Філіп Хофман.

**Расія.** Адзін з лепшых вучняў СШ № 263 горада Масквы, старшакласнік-медаліст узяў у закладнікі клас і застрэліў двух чалавек – свайго настаўніка і паліцэйскага.

**Ш в е й ц а р ы я .** Спартыўны арбітражны суд у Лазане абавязаў экс-варатара БАТЭ (Барысаў) А. Гутара выплаціць клубу 230 тысяч USD за аднабаковае скасаванне кантракту.

## Генпракуратура ініцыюе прыняцце мясцовымі органамі ўлады рашэнняў аб абмежаванні часу рэалізацыі алкагольных напояў




■ **Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН**

**Як паведамляе Генпракуратура, ёю сумесна з Міністэрствам аховы здароўя прааналізаваная эфектыўнасць мер, накіраваных на пераадоленне п'янства і папярэджанне правапарушэнняў, учыненых у стане алкагольнага ап'янення.**

Устаноўлена, што ўзровень спажывання насельніцтвам алкаголю ў рэспубліцы застаецца высокім. На медыцынскім дыспансерным уліку знаходзяцца 175 тыс. чалавек, якія пакутуюць ад хранічнага алкагалізму. Пад назіраннем нарколагаў знаходзяцца 16 тыс. непаўналетніх. У 2013 годзе звыш 16 тыс. асоб учынілі злачынствы ў стане алкагольнага ап'янення, у тым ліку 341 забойства, 767 фактаў наўмыснага нанясення цяжкіх цялесных пашкоджанняў, больш за 1.200 хуліганстваў.

«З мэтай зніжэння ўзроўню спажывання алкаголю насельніцтвам і змяншэння негатыўных наступстваў яго спажывання на рэспубліканскім і рэгіянальным узроўнях прынятыя шматлікія праграмы, што прадугледжваюць значную колькасць мерапрыемстваў, накіраваных на прафілактыку п'янства і алкагалізму, у тым ліку абмежаванне часу рэалізацыі алкагольных напояў», — гаворыцца ў паведамленні.

Разам з тым, як зазначаюць у Генпракуратуры, Міністэрства гандлю 28 кастрычніка 2013 года накіравала ў аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам ліст «Аб рэалізацыі алкагольных напояў», у якім указала на недапушчальнасць прыняцця мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі рашэнняў аб абмежаванні часу рэалізацыі алкагольнай прадукцыі.

Дапаўненні закона да арт. 11 закона «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці і абароту алкагольнай, нехарчовай прадукцыі і прадукцыі з утрыманнем спірту і нехарчовага этылавага спірту», што ўвайшлі ў сілу 30 снежня 2013 года, надзялілі мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы паўнамоцтвамі па абмежаванні рэалізацыі алкагольных напояў у гандлёвай сетцы, у тым ліку ў межах мерапрыемстваў па прапагандзе (папулярызацыі) здаровага ладу жыцця, прафілактыцы п'янства і алкагалізму, барацьбе з імі.

Такім чынам, ліст Мінгандлю ў частцы недапушчальнасці прыняцця мясцовымі органамі ўлады рашэнняў аб абмежаванні часу рэалізацыі алкагольных напояў страціла сілу з 30 снежня 2013 года. У сувязі з гэтым для рэалізацыі задач Дзяржпраграмы нацыянальных дзеянняў па папярэджанні і пераадоленні п'янства і алкагалізму на 2011—2015 гады, а таксама рэгіянальных праграмных мерапрыемстваў Генеральная пракуратура прапанавала аблвыканкамам і Мінгарвыканкаму разгледзець пытанне аб прыняцці на падставе арт. 11 вышэйназванага закона рашэнняў аб абмежаванні часу рэалізацыі алкагольных напояў на адпаведных тэрыторыях.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Кошт 1 кв. метра жылля па дзяржзаказу ў 2014 годзе, як паведаміў міністр архітэктуры і будаўніцтва Беларусі А. Чорны не будзе перавышаць 7,4 млн. рублёў.

**Салігорск.** На першай за апошнія паўгода сустрэчы ў Маскве кіраўніцтва БКК з былым партнёрам "Уралкаліем" перамовы аб аднаўленні супрацоўніцтва не адбыліся.

**Гродна.** КДБ выявіла, што 6 загадчыц дзетсадоў і іх намеснікі больш 200 разоў ездзілі ў Польшчу за таварамі ў працоўны час, так парушалі дысцыпліну яшчэ дактары, настаўнікі.

**Мінск.** У краіне расце карупцыя, як заявіў намеснік генпракурора Беларусі А. Стук, за год выявілі 933 факты хабару, найбольш у сістэме Міністэрства прамысловасці і аховы здароўя

**Магілёў.** На тэрыторыі СЭЗ "Магілёў" кампанія "Омск Карбон Груп" пачала будаўніцтва завода тэхнічнага вугляроду коштам 130 мільёнаў долараў, яго запуск будзе ў канцы 2015 года.

**Баранавічы.** Па патрабаванні А. Лукашэнкі больш 10 старых ваенных самалётаў Су-27 61-й авіябазы будуць адноўлены і мадэрнізаваны, іх хацелі спісаць на металалом.

**Мазыр.** Падчас рэйсу з горада на мясцовы НПЗ раптоўна памерла кіроўца трамвая, жанчыне да выхаду на пенсію заставалася некалькі месяцаў, яна паспела спыніць трамвай.

**Брэст.** Выкладчык адной з ВНУ горада атрымаў 3 гады турмы за шматразовае атрыманне хабару ад студэнтаў за допуск да экзаменаў і прыняцце залікаў па вучэбных прадметах.

**Магілёў.** Кіраўніцтва вобласці загадала правесці пераацэнку непрададзеных тавараў на складах, за год іх запасы выраслі на трыльён і дасягнулі 3, 1 трлн. рублёў.

**Чэрыкаў.** У раённую бальніцу прыйшлося пакласці сямейную пару і прызначыць курс лячэння ад шаленства пасля ўкусаў іх хворай дамашняй кошкі, якую параніў іншы шалёны звер.

**Гродна.** Суд абавязаў медцэнтр "Экамедсервіс" выплаціць бацькам загінуўшай пасля аперацыі дачкі больш 1 млрд. рублёў, урачу-анастазіолагу далі 4 гады калоніі-пасялення.

**Рэчыца.** У адзін дзень знайшлі застрэленым ва ўласнай замкнёнай кватэры 32-гадовага гаспадара, яго 28-гадовы зямляк падстрэліў сябе сам з-за неасцярожнасці на паляванні.

**Гомель.** У рамках ІІІ міжнароднага фестываля "Уладзімір Співакоў запрашае" ў абласной філармоніі ўпершыню прайшоў канцэрт"Час Чапліна" зорак сусветнай музыкі.

**Зялёны Бор.** Упершыню ў Беларусі прыватная фірма "А-100 Дэвелопмент" пабудавала за 3 мільёны долараў дзетсад у прыгарадзе сталіцы на 150 месц і перадала яго ў дар дзяржаве.

**Мінск.** Сусветнае антыдопінгавае агенцтва дыскваліфікавала за ўжыванне забароненых прэпаратаў яшчэ 3-х беларускіх лёгкаатлетаў, сярод іх чэмпіёнку свету Надзею Міхневіч.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** За чарговы зрыў тэрмінаў мадэрнізацыі "Віцебскдрэва" А. Лукашэнка загадаў завесці крымінальную справу і пасадзіць у турму яе фігурантаў за магчымую шкоду.

**Гарадок.** Да канца года, як пацвердзіў міністр прыродных рэсурсаў Беларусі, У. Цалко на тэрыторыі раёна знішчаць сховішча-магільнік нягодных шкодных пестыцыдаў.

**Мёры.** У райцэнтры міліцыя затрымала здымачную групу праграмы "Маю права" тэлеканала "Белсат", узяла ў яе тлумачэнні ў РАУС і пад канвоем вывезла з горада.

**Віцебск.** Як паведаміў начальнік абласной міліцыі І. Яўсееў, для патрульных машын ДАІ закуплены 122 відэарэгістратары фіксацыі парушэнняў хуткасці ў абодвы накірункі руху.

**Руба.** Да пляцоўкі будаўніцтва Віцебскай АЭС пабудавалі аб'язную дарогу даўжынёй 2 км, асноўныя работы на гідравузле станцыі магутнасцю 40 МВт пачнуцца ў маі сёлета.

**Віцебск.** За кошт аптымізацыі сферы аховы здароўя і пазабюджэтнай дзейнасці з лютага медработнікам вобласці на 13 % павысілі тарыфныя аклады, дэфіцыт кадраў 2,8 %.

**Глыбокае.** Да 600-годдзя горада ў пачатку ліпеня раёны штаб па падрыхтоўцы ўрачыстасцей вырашыў абуладкаваць веласіпедную дарожку вакол возера ў райцэнтры.

**Верхнядзвінск.** Рабочая група сумесна з кіраўніцтвам Пскоўскай вобласці Расіі пачала падрыхтоўку да 55-й сустрэчы ветэранаў вайны на Кургане Дружбы трох дзяржаў.

**Мёры.** Камісія Генштаба УС Беларусі выставіла адзнаку "добра" ваеннаслужачым запасу раёна падчас праверкі на зборах баявой гатоўнасці войск тэрытарыяльнай абароны.

**Лынтупы.** У ходзе аперацыі "Перахоп" міліцыя затрымала непрацуючага жыхара гарпасёлка, які на іншамарцы вечарам збіў насмерць 38-гадовага веласіпедыста з вёскі.

**Браслаў.** У мясцовай гімназіі задумалі вясной запусціць новы праект па навучанні гаспадарові і супрацоўнікаў аграсядзіб, якіх у азёрным краі ўжо дзейнічае 190.

**Докшыцы.** На аўкцыёне па стартавай цане 430 мільёнаў рублёў выставілі нават танцавальную пляцоўку па вуліцы Піянерскай, яе будынак доўга не выкарыстоўваўся ў райцэнтры.

**Лепель.** Лепшыя работы графікі і разьбы па дрэве двух пакаленняў мастакоў краю Івана і Дзмітрыя Будзічаў, Аляксандра і Ігара Саўчанкаў склалі іх выставу ў Віцебску.

**Гарадок.** Міліцыя затрымала 31-гадовага серыйнага махляра, які падманам "пазычыў" грошы ў шэрагу пенсіянерак з райцэнтра, яму пагражае да 7 гадоў пазбаўлення волі.

**Віцебск.** Да 10 гадоў турмы пагражае ўрачу-эндаскапісту гарадской бальніцы № 1, які за хабар дапамог "адкасіць" ад службы ў арміі 27 прызыўнікам, яго справа паступіла ў суд.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Тут больш за тысячу людзей шчыра маліліся Богу, ведаючы, што заўтра іх чакае смерць.**

# У памяць бязвінна загінуўшых

**У суботу, 15 лютага, у Росіцы, што на Верхнядзвіншчыне, адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя ўшанаванню памяці росіцкіх пакутнікаў. Больш за сем дзясяткаў гадоў таму, 16 лютага 1943 года, карнікі спалілі ў Росіцы жывымі 1528 чалавек, сярод якіх былі два святары.**

■ **Зміцер Лупач,**
*тэкст і фота.*



## Росіцкая трагедыя

Падчас апошняй вайны акупанты 16 – 18 лютага 1943 года правялі ў Росіцы і ваколіцах антыпартызанскую карную аперацыю “Зімовы цуд”. У ёй удзельнічалі 7 латышскіх батальёнаў, украінская і літоўская роты СС. Асноўнымі ахвярамі аперацыі сталі мірныя жыхары. Латышскія часткі СС праследвалі тут і сваю мэту – ачысціць тэрыторыю ад беларускага насельніцтва пад будучую вялікую Латвію. Пра гэта доўгі час было не прынята гаварыць, каб не парушыць міфічную дружбу народаў. Не дужа ўзгадваецца гэта і зараз, як з латышскага боку, так і беларускага. А пра такія падзеі трэба памятаць, якія б горкія яны не былі, каб не паўтарыць іх у будучыні.

Падчас аперацыі карнікі дашчэнту выпальвалі вёскі, працаздольнае насельніцтва вывозілі ў Германію, а тых, хто працаваць не мог, расстрэльвалі або палілі жывымі. Такі лёс напаткаў у тыя дні і жыхароў Росіцы. Усіх жыхароў карнікі сагналі тады ў мясцовы касцёл для “сартыроўкі”. Разам з вяскоўцамі знаходзіліся і два святары, якія служылі ў Росіцы, – Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра. Акупанты прапанавалі ім выйсці з натоўпу, каб захаваць жыццё. Святары адмовіліся гэта зрабіць і прынялі мучаніцкую смерць разам з парафіянамі.

У 1999 годзе папа Ян Павел ІІ далучыў гэтых святароў да ліку благаслаўлёных. Наша зямлячка пісьменніца Ірына Жарнасек прысвяціла ім свой раман “Будзь воля Твая”, які немагчыма чытаць без слёз.

Каротка ўзгадаем жыццёвы шлях святароў-мучанікаў.

## Ксёндз Антоній Ляшчэвіч

Нарадзіўся 30 верасня 1890 года ў вёсцы Абрамаўшчына на Паставушчыне. У 1909 годзе паступіў у Духоўную семінарыю ў Санкт-Пецярбургу, святарскае пасвячэнне прыняў 13 красавіка 1914 года.

Працаваў вікарыем, настаўнікам рэлігіі і лацінскай мовы, быў пробашчам у Іркуцку, Чыце і Харбіне. За дзейнасць на карысць бедных у 1934 годзе быў узнагароджаны польскім Срэбраным крыжом заслугі. У канцы 1937 года выехаў у Японію, а напачатку 1938 года – у Рым. 13 чэрвеня 1939 года ксёндз Ляшчэвіч уступае ў ордэн марыянаў і едзе працаваць у Друю, якая ўваходзіла тады ў склад Другой Рэчы Паспалітай.

Падчас Другой сусветнай вайны разам з сёстрамі-эўхарысткамі паехаў у Росіцу, каб несці Божае слова мясцовым жыхарам. Нагадаем, тэрыторыя Верхнядзвіншчыны да вайны ўваходзіла ў склад Савецкага Саюза, таму яшчэ з пачатку 20-х гадоў патрапіла пад бальшавіцкую атэістычную прапаганду.

Там жа ў Росіцы ксёндз Антоні Ляшчэвіч і прыняў пакутніцкую смерць у 1943 годзе.

## Ксёндз Юры Кашыра

Нарадзіўся 4 красавіка 1904 года на Мёршчыне. Сям’я была праваслаўнай, але захоўвала ўніяцкія традыцыі. Яго маці перайшла ў каталіцтва ў 1907 годзе, сам жа Юры гэта зрабіў у 1922 годзе.

У 1924-1925 гадах будучы святар вучыўся ў Друйскай гімназіі айцоў марыянаў, 2 жніўня 1926 года ён уступіў у гэты ордэн. Пасля Юры Кашыра вучыўся ў Рыме і Вільні, святарскае пасвячэнне атрымаў 20 чэрвеня 1935 года, праз тры дні адправіў у Друі сваю першую Імшу.

За сваю беларускую дзейнасць на загад віленскага ваяводы быў прымусова вывезены з Друі. Служыў у Вільні, Расне, што на Берасцейшчыне. Пасля таго, як Расну занялі бальшавікі, ён перабраўся ў акупаваную немцамі Польшчу.

Але лёс распарадзіўся так, што ксёндз Юры пасля акупацыі нашых зямель немцамі зноў вяртаецца ў Вільню, а адтуль у Друю. У 1942 годзе разам з ксяндзом Антоніям Ляшчэвічам і сёстрамі-эўхарысткамі едзе ў Росіцу. Там аж да сваёй мучаніцкай смерці праводзіць місіянерскую працу сярод мясцовага насельніцтва.

## Гісторыя святыні ў Росіцы

Каротка ўзгадаем гісторыю касцёла ў Росіцы. Першыя звесткі аб яго існаванні адносяцца да другой паловы XVI стагоддзя. У 1772 годзе па першым падзеле Рэчы Паспалітай Росіца трапляе ў склад Расійскай імперыі. Ужо ў складзе Расіі ў 1778 годзе тут пачынаецца будаўніцтва драўлянага касцёла, які быў асвечаны ў 1792 годзе.

У парафіі пастаянна расла колькасць вернікаў, і стары касцёл ужо не мог змясціць падчас Імшы ўсіх жадаючых. Таму было прынятае рашэнне аб будаўніцтве новага касцёла. Гэтаму паспрыяў царскі маніфест 1905 года аб свабодзе веравызнання. Касцёл пачалі будаваць з цэглы ў 1906 годзе, а ўрачыстае асвячэнне адбылося 20 студзеня 1911 года. Асноўныя сродкі на будаўніцтва былі выдзеленыя багатым родам Лапацінскіх.

Але нядоўга жыхары Росіцы радаваліся новаму касцёлу. Адразу пасля рэвалюцыі бальшавікі яго зачынілі, будынак сталі выкарыстоўваць пад розныя гаспадарчыя патрэбы. У 30-я гады мінулага стагоддзя былі разбураныя прыгожыя касцельныя вежы.

Падчас нямецкай акупацыі ў Росіцы зноў пачалася евангелізацыя. Тут працавалі сёстры-эўхарысткі і два святары-марыяне, якія і прынялі ў 1943 годзе мучаніцкую смерць ад рук гітлераўцаў.

Уся вёска была спаленая, ацалеў толькі касцёл. Пасля вайны тут быў клуб, канюшня, склады збожжа і ўгнаенняў, млын.

З 1988 года ў Росіцы пачынае сваю працу ксёндз Антоній Лось. Ён пачынае рамонт росіцкай святыні, якая была вернутая вернікам. Паўторнае асвячэнне касцёла правёў біскуп Уладзіслаў Блін 19 жніўня 2000 года.

З 2007 года ў Росіцы пачынае сваю працу айцец Часлаў Курэчка.



## Святар-кветкавод

Пра айца Часлава варта згадаць асобна. Падчас яго працы ў Росіцы касцёл і тэрыторыя вакол яго непазнавальна змяніліся. Асабліва прыгожа тут летам, усё навокал цвіце, кветкі цвітуць нават у сажалках, якія выкапаныя на месцы балота. Вясной вакол касцёла зацвітаюць 1528 цюльпанаў, па колькасці людзей, што загінулі ў 1943 годзе. Пасля расцвітаюць на клумбах нарцысы, гіяцынты, хосты, бягоніі, гладыёлусы, лілеі, ружы...

Такую прыгажосць трэба пастаянна падтрымліваць, а мясцовых жыхароў у Росіцы зараз не шмат. І вось тут праяўляецца другі талент ксяндза-кветкавода – талент арганізатара. Ён знаходзіць агульную мову і з раённымі ўладамі, і з кіраўніцтвам сельсавета ў Сар’і, і з камандваннем пагранічнай часткі. Едуць дапамагчы ксяндзу і з Полацка, і з Барысава, і, вядома ж, з Глыбокага. Прычым дапамагаюць людзі абсалютна на валанцёрскіх пачатках. І ў канцы дня вяртаюцца стомленыя, але задаволеныя.

Магу гэта засведчыць, бо ў мінулым годзе разам з іншымі глыбачанамі і глыбачанкамі тры разы ездзіў у Росіцу на падобныя працоўныя пілігрымкі.

## Вернасць Богу і людзям

Сёлетнія ўрачыстасці распачаліся святочнай Імшой у касцёле, якую ўзначаліў кіраўнік Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч. На Імшу сабралася больш каля паўтысячы вернікаў. Прыбыў таксама кіраўнік Верхнядзвінскага раёна Ігар Марковіч.

У сваім слове да вернікаў біскуп звярнуў увагу на вернасць і вытрыманасць святароў-мучанікаў. Ён падкрэсліў, што гэта трагедыя адбылася адносна нядаўна, усяго сем дзесяцігоддзяў таму, менавіта ў сценах гэтага касцёла благаслаўлёныя святары адслужылі сваю Імшу. Яны годна прынялі смерць і навечна засталіся святарамі ў нашай памяці.

Іерарх адзначыў феномен Росіцы, якая прыцягвае шмат вернікаў як зімой, так і летам. Людзі ідуць і едуць сюды, каб умацавацца ў сваёй веры,

*Заканчэнне на стар. 5*





вернасці жыццёваму шляху, у тым, што зараз так не хапае ў сучасным свеце. І дзякуючы малітве ў росіцкай святыні яны гэта атрымоўваюць.

### Чалавек года Віцебшчыны

Напрыканцы набажэнства слова было прадстаўлена кіраўніку Верхнядзвінскага раёна Ігару Марковічу. Ён аб'явіў пра тое, што ксёндз Чэслаў Курэчка атрымаў званне "Чалавек года Віцебшчыны".

Гэта ганаровае званне прысуджана святару за актыўную дзейнасць па духоўным асветніцтве грамадства, прапаганду гісторыі і культуры беларускага народа, добраўпарадкаванне тэрыторыі ў Росіцы.

Росіцкі святар не толькі стварае прыгажосць у Росіцы, але і дапамагае людзям знаходзіць дарогу да Бога.

З прысваеннем гэтага звання айца Часлава павіншавалі біскуп Алег, прысутныя святары і вернікі.

### Па шляху мучанікаў

Пасля Імшы вернікі рушылі з жалобнай працэсіяй да месца мучаніцкай смерці святароў і вернікаў. Наперадзе неслі крыж, потым ішла моладзь са знічамі. Пасля святароў рушылі вернікі, якія неслі запаленыя свечкі, каб пакінуць іх на месцы трагедыі.

На месцы гібелі людзей адбылася супольная малітва. Падчас яе біскуп звярнуўся да людзей з пытаннем: ці ўмеем мы шанаваць жыццё? Ён прывёў сумную статыстыку апошніх гадоў, што датычыць смерці ад самагубстваў, злоўжывання алкаголем, наркотыкаў, згадаў колькасць ненароджаных дзяцей у выніку абортаў. "Мы не ўмеем цаніць сваё жыццё і жыццё іншых людзей, бо не хапае нам мужнасці і ахвярнасці ў штодзённым жыцці," – канстатаваў святар.

Закончылася супольная малітва спевам гімна "Магутны Божа". Пасля гэтага кожны мог прачытаць асабістую малітву і ўшанаваць крыж, усталяваны на месцы трагеры.

Дарэчы, варта ўзгадаць, што, дзякуючы стараннем айца Часлава, тэрыторыя вакол пахавання ў мінулым годзе была абгароджаная і добраўпарадкаваная.

### Росіца і надалей будзе прыцягваць вернікаў

Такую думку выказалі айцец Часлаў і біскуп Алег падчас размовы з журналістамі. "Гэта намоленае месца, тут больш за тысячу людзей шчыра маліліся Богу, ведаючы, што заўтра іх чакае смерць, – кажа росіцкі святар, – можа ў гэтым і заключаецца феномен Росіцы, якая з кожным годам прыцягвае да сябе ўсё больш людзей."

На сваім прыкладзе аўтар матэрыялу можа засведчыць, што адзін раз патрапіўшы ў Росіцу, хочацца вяртацца сюды зноў і зноў. Маю вялікае спадзяванне, што ў гэтым годзе Бог дазволіць мне прыняць удзел у пешай пілігрымцы з Барысава ў Росіцу, якая адбываецца ў канцы ліпеня – пачатку жніўня. Тады чакайце новага рэпартажу.

# Святар з Глыбокага будзе служыць у Віцебску

■ **Зміцер Лупач,**
*тэкст і фота.*

**У пятніцу, 14 лютага, у глыбоцкім касцёле Святой Тройцы адбылася Імша падзякі айцу Станіславу.**



Айцец Станіслаў Памыкала служыў у Глыбокім ад лістапада 2011 года. Зараз біскуп Алег Буткевіч прызначыў яго ў парафію Святога Антонія ў Віцебску. Гэта тая парафія, дзе ксёндз Алег Буткевіч быў пробашчам перад сваім пасвячэннем у біскупы.

Глыбоцкім вернікам айцец Станіслаў запомніўся сваёй усмешкай, чулым сэрцам, мудрымі казаннямі.

***"Ёсць людзі, якія праменяцца, як сонейка, якія саграваюць цёплымі словамі і светлай усмешкай. Менавіта такі наш айцец Станіслаў Памыкала. За час служэння ў парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім ён стаў для нас, парафіянаў, вельмі блізкім, родным па духу. Па Божай волі а.Станіслаў развітваецца з намі, каб несці Добрую Вестку вернікам у Віцебску",*** – такія словы падзякі напісалі глыбоцкія парафіяне ў газету «Каталіцкі Веснік».

# У маленькім горадзе вырашаны вялікія праблемы

**Добрыя навіны прыйшлі з самага маленькага горада краіны – Дзісны, што ў Віцебскай вобласці. Нядаўна тут з'явіўся банкамат. Аднавіўся рамонт Дома рамёстваў. Пачаліся работы па газіфікацыі. І ўсё гэта дзякуючы дапамозе Камітэта дзяржкантролю.**

Пра цяжкасці, з якімі даводзіцца сутыкацца, жыхары Дзісны распавялі Старшыні Камітэта дзяржкантролю Аляксандру Якабсону ў траўні мінулага года. Тады міжведамасная працоўная група праводзіла маніторынг работы дзяржаўных органаў і арганізацый Віцебскай вобласці з насельніцтвам. Старшыня КДК прыехаў, каб сустрэцца з прадстаўнікамі працоўных калектываў, прафсаюзных, моладзевых і грамадскіх арганізацый Мёрскага раёна. Сталася, што ў Дзісне, дзе жывуць амаль 1.700 чалавек, няма банкамата. Хоць зарплата ўсім работнікам налічалася на пластыкавыя карткі. Яшчэ адна праблема – замарожаны капітальны рамонт Дома рамёстваў, зачыненага яшчэ ў 2008 годзе. Таксама жыхары самага маленькага горада краіны зачакаліся газіфікацыі.




*Фота Ул. Скрабатуна.*

Калі кантралёры сталі разбірацца ў гэтых праблемах, высвятлілася наступнае. Банкі не спяшаліся ўсталёўваць банкамат таму, што лічылі колькасць трымальнікаў пластыкавых картак у Дзісне недастатковай. Каб аднавіць рамонт Дома рамёстваў, не хапала фінансавання. А газіфікацыя такіх малых гарадоў як Дзісна і зусім не прадугледжаная дзяржаўнай праграмай. Па словах старшыні Дзісненскага гарвыканкама Аляксандра Качана, мясцовыя ўлады пра праблемы ведалі, але вырашыць іх на сваім узроўні не маглі: – Банкамат гараджанам, а таксама работнікам бліжэйшых сельгаспрадпрыемстваў быў жыццёва неабходны. Дом рамёстваў знаходзіцца ў прыгожым старадаўнім будынку. Гэта – франтон горада. Да таго ж прадукцыя яго майстроў карыстаецца папулярнасцю ў турыстаў. Што ж да газіфікацыі, то яна дапамагла б не толькі падняць на новы ўзровень быставыя ўмовы гараджан, але і дала штуршок развіццю вытворчай сферы, палепшыла інвестыцыйны клімат. Мы выдатна гэта разумелі, таму таксама папыталі дапамогі ў Камітэта дзяржкантролю. Пасля таго, як праблемы апынуліся на кантролі ў Аляксандра Якабсона, пачалася сур'ёзная работа з Мінэнерга і Мінсельгасхарчам, кіраўніцтвам Беларусбанка, а таксама з іншымі арганізацыямі і прадпрыемствамі. У выніку банкамат у Дзісне ў аддзяленні ААТ «АСБ Беларусбанк» ужо працуе. Для аднаўлення рамонту Дома рамёстваў ААТ «Нафтан» вылучыла бязвыплатную спонсарскую дапамогу – 2 мільярды рублёў. Работы па ўладкаванні новага даху пачаліся. Таксама плануецца замяніць дзверы і вокны. І, нарэшце, у інвестыцыйную праграму прадпрыемства «Віцебскаблгаз» на 2014 год па ўзгадненні з Мінэнерга ўключана праектаванне і будаўніцтва 35-кіламятровага газапровада высокага ціску Ксты – Дзісна коштам 24 мільярды рублёў. Кажуць, перайсці ад выкарыстання звадкаванага газу да прыроднага жыхары Дзісны змогуць ужо ў кастрычніку.

Першы намеснік старшыні Камітэта дзяржкантролю Віцебскай вобласці Вадзім Заранкін звярнуў увагу, што праблемы, якія вырашыліся ў Дзісне, гэта толькі адзін з прыкладаў карысці, якую прынёс маніторынг работы дзяржорганаў у мінулым годзе: – Маніторынг прайшоў у шасці раёнах вобласці. Паралельна з ім праводзілася анкетаванне, якое паказала, што больш 60 адсоткаў апытаных аказаліся паляпшэнне працы са зваротамі грамадзян. І, трэба сказаць, для гэтага ёсць падставы. Напрыклад, дзякуючы зваротам жыхароў і кантролю з боку КДК вырашылася пытанне штодзённага курсавання вагона Мінск - Друя - Мінск, які следуе праз Мёры. Таксама ў Мёрах мадэрнізаваны магазін «Універсам». Для гэтага Белкаапсаюз вылучыў больш 1,5 мільярда рублёў. А Коханаўскі экскаватарны завод у Талачынскім раёне, які сутыкнуўся з фінансавымі цяжкасцямі, быў далучаны да «Амкадора». Пры гэтым не толькі захаваліся профіль прадпрыемства і штат працаўнікоў, але мяркуюцца яго тэхнічнае пераабсталяванне і павелічэнне відаў выпускаемай прадукцыі.

***Сяргей Галеснік, «СБ»***

# Тарыфы на праезд у гарадскім грамадскім транспарце ў Беларусі павысяцца на 55-66%

**Да канца 2014 года тарыфы на пасажырскія гарадскія перавозкі ў Мінску павялічацца амаль на 66% (да 5 тыс. рублёў), у абласцях — на 55% (да 4,2 тыс). Аб гэтым заявіў намеснік дырэктара дэпартамента цэнавай палітыкі Міністэрства эканомікі Іван Трапянок 14 лютага на калегіі Міністэрства транспарту і камунікацый у Гомелі.**

Аднак, паводле яго слоў, гэта будзе зроблена ў некалькі этапаў. «З мэтай недапушчэння сацыяльнай напружанасці павышэнне тарыфаў адбудзецца паэтапна», — сказаў Трапянок.

Віцэ-прэм'ер Беларусі Анатоль Калінін у сваю чаргу заявіў, што «шокавых пераўтварэнняў» не будзе, тарыфы будуць павялічвацца ў залежнасці ад росту даходаў насельніцтва.

***Алена Германовіч, БелаПАН.***

# Міністэрства аховы здароўя: Зарплата медработнікам будзе павышацца

**Праца па павышэнні заработнай платы медыкам не спыняецца, заявіў журналістам намеснік міністра аховы здароўя Ігар Ласіцкі 14 лютага ў Брэсце перад пачаткам калегіі ведамства паводле вынікаў дзейнасці сістэмы аховы здароўя Брэсцкай вобласці ў 2013 годзе.**

«Рыхтуюцца чарговыя пастановы. Пакуль гэта прапрацоўваецца на ўзроўні міністэрстваў эканомікі, фінансаў і аховы здароўя. Але я думаю, што на гэта не пойдзе шмат часу і медыкі атрымаюць павышэнне да заработнай платы», – сказаў Ласіцкі.

Ён адзначыў, што нядаўна з'явілася пастанова Савета міністраў, якая дазваляе выкарыстоўваць сэканомленыя сродкі на матэрыяльнае стымуляванне работнікаў аховы здароўя. «Зараз ужо самі галоўныя ўрачы і кіраўнікі нашых арганізацый будуць зацікаўлены ў тым, каб найбольш эфектыўна выкарыстоўваць выдзеленыя сродкі і ўтрымаць работнікаў, даўшы ім годную зарплату», – дапоўніў намеснік міністра.

Адказваючы на пытанне, на колькі неабходна падняць заработную плату медыкам, Ласіцкі выказаў меркаванне, што сярэдні медыцынскі персанал павінен атрымліваць у месяц прыкладна 5,6 млн. рублёў.

«Мы бачым па Мінску і па вялікіх гарадах адток нашага сярэдняга персаналу ў супер- і гіпермаркеты. Сярэдняя зарплата, на якую яны ідуць, – 5 млн. 600 тыс. рублёў, – падкрэсліў намеснік міністра. – Нельга сказаць, што ўрачы атрымліваюць мала. Сёння ёсць маса варыянтаў стымулявання, якія дазваляюць павялічыць ім заработную плату. Гэта і даплаты за высокатэхналагічныя, за складаныя аперацыі, за выкананне іншых абавязкаў. А калі мы пачалі аналізаваць, то ўбачылі, што ў цэлым па сістэме ўзровень зарплаты ўрачоў хуткай дапамогі часам вышэйшы, чым у іх калегаў, якія працуюць у стацыянары».

***Ларыса Шыганава, БелаПАН.***

